№ 1 (12) Субота, 16 лютага 1929 г., м. Вільня. Год III.



# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

ПЭРЫЯДЫЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ПА САМАЎРАДАВЫМ СПРАВАМ НАШАГА КРАЮ

Рэдакцыя і Адміністрацыя: WILNO, Zawalna 5—6. Тэлефон 14—35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА.
За 3 месяцы. . . . 2 зл.
1 нумар . . . . . . 50 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ



## Роля Самаўрадаў у нашым Краю.

Паўтарагадовы пэрыёд істнаваньня нававыбранага самаўраду дае поўную магчымасьць ацаніць ягоную ролю ў гаспадарчым жыцьці нашага краю.

З тае пары, як пасьля маёвага перавароту польскі Сойм амаль што зусім утраціў сваё значэньне, як народнае прадстаўніцтва, самаўрады зьяўляюцца адзіным выбарным органам, які з пасьпехам можа бараніць прынамся гаспадарчыя інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Значэньне самаўрадаў нашага краю з пераважаючаю большасьцю беларускага насяленьня павялічваеца яшчэ тым, што беларускія палітычныя партыі па розным прычынам заміраюць і трацяць свой уплыў на беларускае грамадзянства. Дзеля гэтага добра яшчэ здарылася тое, што беларускія радныя стаялі ў старане ад палітыкі, дзякуючы чаму, пераўжываемы крызыс беларускімі палітычнымі чыньнікамі не крануўся іх. У гэтым ёсьць пэўная заслуга і „Беларускага Раднага“, які з самага пачатку свайго істнаваньня рашуча стаў на грунце абароны самаўраду ад умяшацельства яго ў палітыку.

Але ні для жыдоў, ні для украінцаў, ні для немцаў самаўрад ня мае гэткага значэньня, як для нас, беларусаў. Усе гэтыя нацыянальнасьці, як больш арганізаваныя, могуць бараніць свае нацыянальна-культурныя і гаспадарчыя інтарэсы і па-за межамі Сойму і Самаўраду. Як лепшы доказ таго, што з гэтымі нацыянальнасьцямі больш лічацца, зьяўляюцца тыя значныя дзяржаўныя і камунальныя дапамогі, якія выдаюцца на іх школы і розныя арганізацыі. Напрыклад, для украінскіх дабрачынных арганізацыяў Сойм ухваліў у бюджэце на наступны год больш 180,000 зл. А якія значныя сумы атрымліваюць жыды з розных крыніцаў на свае школы, шпіталі, прытулкі для бедных, старых і дзяцей і г. д. Праўда, гэтыя нацыянальнасьці ўмеюць лепш бараніць свае інтарэсы, чым беларусы.

Для нас-жа Самаўрады зьяўляюцца адзіным легальным органам, які можа і мае права бараніць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Нажаль, ня ўсімі беларусамі ў свой час было належна ацэнена значэньне Самаўраду, і дзеля гэтага беларускае грамадзянства выступіла на выбары да самаўрадаў без адпаведнае падрыхтоўкі і арганізацыі. З усіх беларускіх арганізацыяў адзін толькі Беларускі Нацыянальны Выбарны Камітэт своечасна папярэдзіў беларускіх выбаршчыкаў па Віленшчыне і Навагрудчыне аб выбарах сваімі адозвамі і інструкцыямі, у той, час, як іншыя „палітыкі“ на‘т перашкаджалі яму у гэтай, здавалася-б, нешкадлівай для беларускага народу працы.

Дзякуючы гэтым-жа перашкодам, не ўдалося паставіць беларускіх радных на больш рэальны грунт працы і пасьля выбараў. На беларускі Самаўрадавы зьезд, які адбыўся ў Вільні у восені 1927 г., хаця і зьехалася значная частка беларускіх радных, аднак-жа дзякуючы выразнаму палітычнаму абліччу арганізатара зьезду з аднаго боку і перашкодам з боку „палітыкаў“ іншых кірункаў з другога,—зьезд гэты не дасягнуў свае мэты. Выбраны ім Беларускі Камітэт па Справам Самаўрадаў, які павінен быў стаць цэнтральным кіруючым органам для беларускіх радных, не здабыў належнае павагі і аўтарытэту сярод беларускага грамадзянства і беларускіх радных і ня выявіў сябе аніводным рэальным чынам.

Гэткім чынам, першая спроба прыдаць

арганізаваны характар працы беларускіх радных не удалася. І гэная неарганізаванасьць беларускіх радных ад'емна адбіваецца на ўсіх галінах гміннага жыцьця. Толькі дзякуючы неарганізаванасьці і неразуменьню беларускімі раднымі свайго значэньня і абавязкаў перад выбаршчыкамі, можна вытлумачыць гэткія зьявішчы, як асыгнаваньні гміннымі радамі з беларускаю большасьцю субсыдыяў на польскія выдавецтвы, школы, бібліятэкі, розныя арганізацыі з выразным палітычным характарам, на абарону „польскасьці“ на Заходніх Крэсах і на'т заграніцаю (Сіняўская гміна), — у той час, як уласныя беларускія выдавецтвы, школы, культурна-асьветныя і дабрадзейныя арганізацыі пазбаўлены гэнае грашовае дапамогі.

Украінцы, напрыклад, маюць каля 100 пэрыёдычных часопісаў, з якіх больш паловы выключна гаспадарчага зьместу. А у нас засталося толькі каля 5, ды і тыя, здаецца, хутка спыняцца зусім. Што зачыняюцца беларускія палітычныя газэты, па незалежным ад сябе прычынам, ад гэтага яшчэ не вялікая бяда. Прынамся, менш чуваць узаемнае лаянкі, кампрамітуючай беларусаў. Але беларускія радныя маглі-б, здаецца, ахвяраваць хоць нязначныя сродкі на незалежны самаўрадавы беларускі орган, які служыў-бы вольнаю трыбунаю для іх.

Калі да гэнае пары яшчэ выходзіць „Беларускі Радны“, вольны ад уплыву з боку якіх-небудзь палітычна-партыйных чыньнікаў, дык у гэтым няма ніякае заслугі беларускіх радных, якія к свайму сораму, не усьведамляюць сабе вялікага значэньня самаўраду у сучасны палітычны момант пры агульнай неарганізаванасьці і культурна-гаспадарчым заняпадзе беларускага народу.

З часам можа і зразумеюць гэта, але можа быць позна. А прамядленьне часу беспаваротнай сьмерці падобна.

# Стан пажарніцтва у Віленскім Ваяводзтве

У „БеларускІм Радным“ (N 6) мы ўжо зьвярталі ўвагу на тую вялізарную небясьпеку, якую прадстаўляюць пажары у нашым „саламяным“ краю і на тыя сродкі, якімі грамадзянства на чале з самаўрадамі павінна вясьці барацьбу з гэтаю небясьпекаю. На гэты раз мы паінфармуем сваіх чытачоў з фактычным станам пажарніцтва ў Віленскім ваяводзтве ў параўнаньні з іншымі ваяводзтвамі.

Паводле даных з гадавога адчоту за 1928 г. аб стане пажарніцтва у Віленскім ваяводзтве, зьмешчанага ў „Пжэглёндзе Пожарнічым“ (N 1 і 2) за 1929 г. і беспасрэдніх інфармацыяў, атрыманых ад Інспэктара Ваяводзкага Саюзу Пажарных пана П. Дальстэдта (Вільня, Завальная 6—5), стан пажарніцтва у Віленскім ваяводзтве прадстаўляецца ў наступным відзе:

Абшар Віленскага ваяводзтва складае 28,409 кв. кілямэтраў. У пажарным адносіньні найбольш небясьпечны, — бо большасьць вясковых будынкаў з саламянымі стрэхамі.

У пэрыёд часу 1920 — 1923 г. удалося арганізаваць 34 пажарныя стражы і стварыць Саюз. Гэткім чынам адна стража прыходзілася ў сярэднім па 836 кв. кіл. Ад гэтага часу арганізацыйная праца ў галіне пажарніцтва паволі парушалася уперад, дзякуючы сталым стыхійным пажарам, так што ў 1925 годзе ужо прыходзілася адна стража на 568 кв. кіл., 1926 г. — 400 кв. кіл., 1927 г. — 305 і 1928 г.—184 кв. к.

У 1927 г. адна стража прыходзілася у крэсавых ваяводзтвах: Палескім — на 497 кв. кіл., Віленскім—305, Валынскім—229, Беластоцкім—251 і Навагрудзкім—253 кв. кіл. У цэнтральных ваяводзтвах: Любэльскім — 60 кв. кіл., Станіславаўскім—53, Келецкім — 39, Варшаўскім — 42, Тарнапольскім — 29, Львоўскім—27, Лодзінскім—25, Кракаўскім— 26. Гэткім чынам, у 5 крэсавых ваяводзтвах на агульны абшар 156,664 кв. кіл., прыходзілася ў 1927 г. 367 стражаў, ці адна на 295 кіл. у сярэднім. У 8 цэнтральных ваяводзтвах — 4489 стражаў на абшар 184,360 кв. кіл., ці адна на 36 кв. кіл. у сярэднім.

У якім тэмпе разьвіваецца пажарніцтва ў Віленскім ваяводзтве, відаць з наступнага: у 1926 г. была 71 стража, а у канцы 1928 г. — 154. У паасобных паветах ваяводзтва лічбавы стан пажарных стражаў у 1926, 1927 і 1928 г. быў наступны: Віленска-Троцкі павет — 17 — 22 — 32 стражы, Сьвянцянскі — 14—19—25, Дзісьненскі—9—11—22, Вялейскі—6—11—21, Браслаўскі—5—7—18, Ашмянскі—7—10—13, Маладэчанскі—8—8—12 і Пастаўскі—5—5—11. Разам: 71—93—154.

З пункту гледжаньня матэр'яльнага абарудаваньня гэтыя 154 стражы выглядаюць так: насосаў — 255, бочак — 554, гідранэтак—3, гідразюраў—9, драбінаў Шчэрбоўскага—14, рэквізаваных вазоў—46, багроў — 870, вёдзер—407, кішкі—4,223 мэтры, касак—1009, шапак 1701, рэмізаў—41 і розныя дробныя снасьці.

Усіх гэтых рэчаў яшчэ значна не хапае да нармальнага укамплектаваньня кожнае стражы. Калі аблічыць вартасьць поўнага абарудаваньня аднае дабрахотнаа стражы паводле цэнніку аднае з варшаўскіх фірмаў у 8,366 зл., дык на пакупку нехапаючых снасьцяў патрэбавалася-бы для 154 стражаў—713,953 зл. А на 414 стражаў, якіх прыблізна яшчэ не хапае на Віленскве ваяводзтва, патрэбна было-б каля 3 міл. зл.,

беларускі абаронца адвакат Міткевіч, пасол Шапель, рэд. „Бел. Дня“ Умястоўскі, радны віленскага магістрату беларус Крук, прадстаўнікі прэсы і польскага грамадзянства. Пасьля праверкі мандатнаю камісіяй мандатаў прысутных адкрыў зьезд старшыня Камітэту па справам Самаўрадаў, сябра Нясьвіскага сойміку п. Я. Ярош, запрапанаваўшы выбраць прэзыдыўм зьезда. Старшынёю прэзыдыума быў выбраны М. Пятровіч, войт Палачанскай гміны, Маладэчанскага павету. У прэзыдыум былі выбраны: віцэ-старшыня А. Паўлюкевіч, — Старшыня Бел. Нац. Рады і Партыі, Я. Яроцкі — радны м. Баранавічы і сябры— Г. Канапацкі, Вярнікоўскі, Ярош, Падбярэскі, Якімовіч ад цэнтру і з правіцы — сэнатар Назарэўскі -радны м. Барановіч, Рагальчук (Нясьвіскі пав., сябра нясьв. сойміку), Філіповіч (Валожынскі пав, заступнік войта), Мароз (Маладэчанскі пав. сябра сойміку маладэчанскага), Сончык (Слонімнімскі п., сябра сойміку слонімскага), Ілінец, заступнік войта, (Наваградзкі п.), Саковіч (Вялейскі п.) і Рахман, радны (Лідзкі пав.). Сэкрэтары — Я. Шыбка і Т. Шыбут.

## Радныя беларусы! Гуртуйцеся каля свайго камітэту па справам Самаурадау, памятуючы, што у еднасьці сіла.

## Прывітаньні.

У пачатку зьезду распачаліся прывітаньні.

Віталі: ад камітэту па справам Самаўрадаў п. Я. Ярош, ад арганізацыйнае Камісіі па скліканьню зьезду п. Г. Канапацкі, ад Віленскага Магістрату радны беларус п. Крук, ад польскага грамадзянства адвакат п. С. Міцкевіч, і п Д-р Бракоўскі ад Партыі Працы, ад т-ва „Прасьветы“ п А Якімовіч, ад Баранавіцкага Магістрату радныя беларусы сэнатар Назарэўскі і п. Яроцкі, ад рэдакцыі „Беларускага Дня“ п. Ф. Умястоўскі, ад рэдакцыі „Беларускага Слова“ п. Т. Вернікоўскі, ад Сьвянцянскага павету Рады пасол Шапель, ад партыі бел эсэраў п. Я. Мамонька, ад цэнтр. выб. камітэту п. Друцкі Падбярэзкі і ад Бел. Нацыян. Рады і Партыі п А Паўлюкевіч.

У большасьці прывітальных моваў падкрэсьлівалася зьмена на лепшае ў адносінах да беларусаў польскага ўраду з таго часу, як на чале Польскай Дзяржавы стаў Маршалак Я. Пілсудзкі.

П. Друцкі Падбярэзкі запрапанаваў выслаць прывітальныя дэпэшы Прэзыдэнту Рэспублікі, Маршалку Пілсудзкаму Віленскаму Ваяводзе п. Рачкевічу. Наваградзкаму Ваяводзе п. Бэчковічу і Конгрэсу Гмінных Радных усей Польшчы ў Варшаве

Тэлеграмы прыймаюцца бурнымі воплескамі і высылаюцца.

## Даклады з мейсц.

Пасьля кароткага перарыву і дакладу аб Самаўрадах п. Друцкага Падбярэзкага, рэфэрату аб асьвеце старшыні т-ва „Прасьветы“ п. А. Якімовіча распачынаюцца даклады з мейсц.

Першым забраў голас **М. Пятровіч**, войт Палачанскай гміны, Маладэчанскага павету, прачытаўшы наступную дэклярацыю:

У мамэнт, калі Беларускі Народ павінен быў выказаць найбольшае напружаньне свае волі і сьвядомасьці ў выбарчай акцыі ў Самаўрады, — беларуская вёска атрымала дапамогу ў гэтай акцыі амаль ня выключна ад адзінага Беларуск. Цэнтр. Выбарч. Камітэту, ня гледзячы на тое, што гэтак лічныя беларускія групы і партыі запэўнялі гэтую дапамогу вёсцы.

Мы, першыя выбраныя Беларускія Войты канстатуем, што ў многіх раёнах, дзякуючы сьвядомасьці насяленьня і дапамозе Камітэту, беларуская вёска магла свабодна выявіць сваю волю.

Дык мы гэтым выражаем сваю шчырую падзяку Бел. Цэнтр. Выбарчаму Камітэту і яго ным кіраўнікам за карысную працу для Беларускага Народу.

Адначасна мы вітаем тыя Беларускія Нацыянальныя арганізацыі, якія разам з Цэнтр. Бел. Выбарчым Камітэтам знайшлі ў сабе даволі грамадзянскай стойкасьці здольнасьці, каб першых беларускіх выбранцаў абараніць перад усялякімі няпрыемнасьцямі і адстаяць перад уладамі.

Гэтую сваю падзяку мы адносім перадусім да Беларуск. Нацыян. Рады ў асобах яе Старшыні п. А. Паўлюкевіча і паўнамоцнага прадстаўніка Рады на Віленшчыну п. Т. Вярнікоўскага, якія асабіста палажылі шмат

энэргіі і сілаў у абароне выбранцаў Беларускага Народу.

Шчырая падзяка і пашана!

Войт гміны Палачанскай
*Мацей Пятровіч.*

Войт гміны Вялейскай
*Аляксандра Субач.*

**Мікірэй,** заступнік войта Клецкай гміны: Я прыбыў, каб далажыць аб той працы, якая вялася ў Клецкай гміне. Пры першых выбарах у Клецкую Гмінную Раду было праведзена 8 беларусаў і 2 палякі. Але гэтыя выбары былі скасаваны старастаю. Надчас другіх выбараў былі іншыя вынікі, бо былі ўжыты пэўныя камбінацыі. Аднак-жа нашыя сяляне не спалохаліся і правялі 6 беларусаў і 4 палякаў, з якіх тры гэтак самa беларусы, толькі лічаць сябе палякамі. Адзін асаднік Цьвятніцкі. Перадаўшы, як ідзе праводзіліся ў гміне выбары, прамоўца вітае Зьезд і дзякуе арганізатараў Зьезда. (Воплескі).

**Аляксандр Субач,** войт Вялейскай гміны, Вяляйскага павету: Хто чытаў апошні нумар „Бел. Слова", той бачыў, што войт Субач зацьверджаны. Але гэта ня так. Я пакуль лічуся не войтам, а заступнікам войта. Чаму п. Староста не зацьвярджае, ня ведаю. Да гэтай пары адбыліся тры паседжаньні гміннай рады. Калі на адным з паседжаньняў было закранута пытаньне аб школьніцтве, дык было сказана, што гэтага пытаньня ня можна датыкаца, бо гэта справа палітычная. Шарварачны падатак быў разложаны неправідлова і Гмінная Рада запратэставала. На агульны лік 9 школаў ёсьць 4 бел.: 3 двуязычныя і адна беларуская.

**Вярбіцкі Максім,** радны Крамінскай гміны, Маладэчанскага пав. склад гміны наступны: 5 беларусаў, 4 палякі і 1 жыд. Зрабіў даклад аб працы Гміннай Рады.

**Худы Сыман,** радны Ланьскай гм., Нясьвіскага пав. Уносіць прапазыку, каб усе школы былі беларускія. Напамінае, што забыта пытаньне аб лекарскай і вэтэрынарнай запамозе. Навокала шмат лясоў, але дастаць будулец ці дровы немагчыма. Грунтовы падатак разложаны неправідлова. Дзякуе за працу п. Паўлюкевіча, Вярнікоўскага і Падбярэзкага. (Воплескі).

**Семашкевіч Усевалад,** сябра Лебедзеўскай гміны і соймiку. Склад Гміннай Рады — 6 беларусаў, 3 жыды і 1 паляк — абшарнік. Склад Маладэчанскага соймiку — 70% белар., 25% палякаў — абшарнікаў і 5% асаднікаў. Склад павятовага выдзелу — 50% бел. і 50% палякаў. Шмат было перашкодаў пры выбарах. Школьны інспэктар не дае адказаў на дэкларацыі і тым варожа успасабляе народ проці Ўраду. Дзякуе Старшыню Нац. Рады п. Паўлюкевіча, даўшага магчымасьць сабрацца гэтаму Зьезду. (Воплескі)

**Ілінец Аляксандэр,** заступнік войта Дзятлаўскай гміны. Вітае зьезд і дзякуе Старшыню Бел. Рады п. Паўлюкевіча і інструктара на Навагрудзкі павет п. Гарбуна. Дзякуе старасту п. Грынеўскага, які ідзе на спатканьне мейсцовым сялянам (Воплескі).

**Гурын Сафрон,** Радны Юрацішскай гм. Валожынскага павету. Склад Рады — 10 радных, з іх 5 праваслаўных беларусаў, 3 каталікі беларусы і 2 палякі абшарнікі. У гміне ёсьць 13 польскіх школаў. Насяленьне складала дэклярацыі на беларускія школы, але яны не былі зацьверджаны. У часе вайны было зьнішчана 75% гаспадарак і цяпер адбудоўваюцца на свой кошт. Толькі 25% атрымалі будулец, але ў недастатачным ліку. Купіць дзерава вельмі трудна. Гміна атрымала 20,000 зл. для раздачы пазычак насяленьню, пацярпеўшаму ад стыхійных бедстваў. Наагул гаспадарчае становішча гміны цяжкае: адбудоўваюцца гаспадаркі і будуецца новы гмах гміны, зьнішчаны вайною. Апрача таго ў гэтым годзе быў няўраджай.

**Бэкета Сымон,** Радны Казлоўскай гміны, Слонімскага пав. Жаліцца на тое, што абшарнікі нішчаць лес, а для сялян няма нават дроў. Уносіць прапазыку, каб патрэбаваць спыненьня далейшага зьнішчэньня лясаў, асабліва там, дзе яго недахоп. Слонімскі староста стараўся перашкодзіць правясьці ў гмінную раду беларусаў — нацыяналістаў, называючы беларусаў дурнямі. Праўда, можа мы ня ўсе адукаваны. Але дзе-ж мы гэную навуку можам атрымаць, калі нам перашкаджаюць і застаўляюць толькі працаваць?. На нас, працоўных, трымаецца ўся дзяржава і з нашымі патрэбамі трэба ўсё ж такі лічыцца. Лепшае насеньне атрымліваюць толькі абшарнікі, а сялянам дастаецца гнілое. Прырэзкі зямлі ня робяць. Вітае зьезд і дзякуе арганізатараў і ініцыятараў яго. (Воплескі).

**Сончык Уладзімір,** Радны Казлоўскай гм., Слонімскага пав. і сябра павятовага Соймiку. Староста не зацьвердзіў выбранага войта, заявіўшы, „że nie nadaje się na to stanowisko". У часе выбараў самі правалівалі сваіх кандыдатаў тым, што кожны хацеў сам папасьці ў ва ўсе адзелы. І ў выніку выбралі кандыдатаў Старасты...

**Філіповіч Базыль,** заступнік войта Беніцкай гміны, Лідзкага павету. Склад гміны — 60% беларусаў, 30% палякаў, 10% жыдоў. Указвае на патрэбнасьць падняцьця культуры. Вітае зьезд і дзякуе арганізатараў яго.

**Рагальчук Дзямян,** Радны Клецкай гміны, Нясьвіскага павету і сябра павятовага Соймiку. Склад насяленьня гміны — 80% беларусаў, рэшта палякі і жыды. Склад гм. Рады не адпавядае запраўднаму проценту насяленьня: 60 проц. пэўных беларусаў, рэшта неакрэсьляные. З прыемнасьцю можна сьцьвердзіць, што беларусы нарэшце біруц-

ца за працу. Склад сойміку выглядае зусім інакш: 2 жыды, 12 палякаў і 8 беларусаў, а па веравызнаньню — 2 жыды, 10 праваслаўных і 10 каталікоў. Значыць ёсьць два „праваслаўных палякі" (?) Склад сойміку не карысны для нас. Жыраваў, напрыклад, пазычку для малочнага каапэратыву Скасаваў пазычку для заступніка старосты ў суме 1,300 зл., выданую для пераезда з суседняга павету, ў той час, як была ўнесена прапазыка для падтрыманьня беларускай Клецкай гімназіі, але грошаў не знайшлося.

**Татур Лукаш,** Радны Маладэчанскай гміны. Пры выбарах у гмінную раду было аб'яўлена ў дзень выбараў. Выбары былі сарваны. Склад гміннай рады — 10 беларусаў, 2 абшарнікі і 1 жыд. У гміне 10 польскіх школаў і ніводнай беларускай. Дэкларацыі не прымаліся і адказ не даваўся. Шмат падатковых несправядлівасьцяў. Напрыклад **сэквэстратар прыяжджае, каб атрымаць 8 грошаў кары, а за праезд бярэ 8 злотых! Школьны інспэктар Маладэчанскага і Лідзкага паветаў п. Пламінскі нішчыць дэкларацыі там, дзе 90 проц. беларусаў.** Уносіць прапазыку, каб улады ўбралі яго.

**Рахман Ал.,** Радны Лідзкай гміннай рады. Склад рады—90 проц. бел., 10% палякаў. 10 радных беларусаў,—5 праваслаўных і 5 каталікоў. Адносіны старасты добрыя. У гміне 9 польскіх школаў. Дзякуе арганізатарам зьезду!

**Прыбар Вінцэнт,** Радны Сноўскай гм., Нясвіскага пав. Працэнтавы склад насяленьня гміны — 85 проц. бел., 14 проц. палякаў, а склад гміннай рады—70 проц. бел., 30 палякаў і 10 жыдоў.

У сваём дакладзе паўтарыў часткова тое, што было сказана папярэднімі дакладчыкамі.

**Вальчунас,** Радны Радашкоўскай гм. рады і сябра сойміку. Склад рады—90 проц. бел. і 10 проц. палякаў. Склад сойміку — 70 проц. бел. і 30 проц. палякаў. Павятовага аддзелу—50 проц. бел. і 50 проц палякаў. Адносіны між Раднымі добрыя. У гміне адчуваецца недастатак будынкаў і дроў.

**М. Усьціновіч,** прадстаўнік в. Уша Маладэчанскага пав. Я прашу Прэзыдыум унясьці ў пратакол паседжаньня аб тым, каб улады зрабілі загад аб уплаце ўсіх дзяржаўных, гмінных і соймікавых падаткаў з пачатку года, каб селянін ведаў тэрмін і парадак уплаты падаткаў.

Дзякуе Нац. Раду за тое, што яе стараньнем убралі вучыцельку Вернік ўну, якая толькі лаяла дзяцей.

**Альшэўскі,** Радны Палачанскай гміны, Маладэчанскага пав. Перад выяздам на зьезд атрымаў ад гміннай Рады паручэньне падзякаваць тым змагарам, якія апякуюцца аб нас. (Воплескі).

Затым выступалі яшчэ з дакладамі Жышкевіч, Башаркевіч, Студзенка, Трафім і іншыя, якія ў сваіх прамовах закранулі тыя самыя пытаньні, аб якіх гаварылі папярэднія прамоўцы.



Сябры Беларускага Нацыянальнага Выбарчага Камітэту да Гмінных Самаўрадаў.

## ДЫСКУСІЯ.

Пасьля дакладаў з мейсц распачалася дыскусія, якая нажаль дзякуючы эсэру Мамоньцы і рэдактару „Бел. Дня" п. Ф. Умястоўскаму, ухілілася крыху з узятага рэчовага тону і кірунку.

З гэтай дыскусьі, якую зьмешчаем ніжэй, відаць, што павага зьезду, ягоная супакойнасьць, рэчовасьць і імкненьне да рэальнай працы не падабаліся групе ў асобах гэткіх розных кірункаў, як палёнофіл Ф. Умястоўскі, грамадавец Крук, энпэхавец Шапель, „шукач залатога руна" Міткевіч (як яго назваў „Nasz Kraj") студэнт Луцэвіч і іншыя. Гэтая група рабіла дарэмныя спробы замуціць адналіты настрой зьезду і выбіць яго з працавітае раўнавагі.

У дыскусіі першым узяў слова Мамонька, эсэр, заявіўшы, што ні п. Бадбярэзкі ў сваем дакладзе аб Самаўрадах, ні п. Якімовіч у дакладзе аб асьвеце ня выложылі ніякай праграмы. „Наагул гэтай праграмы ніхто Вам ня дасьць, апрача нас, сацыялістаў. І калі хочаце, я Вам яе прадстаўлю."

Але замест таго, каб прадставіць зьезду праграму, Мамонька адчытаў звычайную мітынговую прамову, пазбаўленую ўсялякага зьместу. Ен гістэрычна крычэў, што ніхто нічога ня дасьць. Толькі рэвалюцыяй можна здабыць свае правы!...

У гэты час на салі падняўся шум, ня даўшы прамоўцы закончыць сваю прамову. Раздаваліся галасы: „Даволі. Вон з салі!. Правакатар!".

І п. Мамонька пасьпешна вылецеў з салі, раскідаўшы некалькі штук зялёных праклямацыяў, скіраваных проціў арганізатараў зьезду...

На гэтым усе спробы разьбіць зьезд і закончыліся

## Прамова п. Канапацкага.

Пасьля выхада з салі Мамонькі ўзяў слова п. Канапацкі, заявіўшы, што п. Мамонка напэўна ня чуў, што тутака гаварылася, бо тады б ведаў, што галоўнае заданьне нашае — гэта дабіцца каб Самаўрад стаўся-бы праўдзівым Самаўрадам, праўдзівым гаспадаром сваей гміны, а што датычыць праграмы працы, дык яна ўласьне і выясьніцца пасьля гэтага зъезду. Пасьля п. Канапацкі ацяніў наагул партыю эсэраў. што яны аднальковыя ўсюды Толькі галосныя выразы, дэмагогія, гістэрыкі і дзе бы не зьявіліся яны—адно толькі зьнішчэньне і развал. У Менску Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і ўладу ўзялі ў свае рукі... I што-жа?! Вось туляюцца па сьвету. Крычаць, пратэстуюць, а карысьці ніякай. Толькі стараюцца ўсё разваліць... Вось гэтак і Мамонька...

## Прамова п. Паўлюкевіча.

Паны Радныя! Адозвы, што былі раскіданы па салі, пэўне ж цікавяць Вас

Мы іх не баімося і мы іх Вам адчытаем. Але не для гэтага мы сюды зьехаліся! Мы павінны скончыць наш Зьезд, закончыць нашую працу!

Мы не парушалі палітыкі на зьездзе і мы яе не дапусьцім і цяперака. Прапаную выслухаць „рэзалюцыі“. (Былі адчытаны рэзалюцыі п. Падбярэзкім і пасьля направак прыняты зьездам).

Забраў голас ізноў п. Паўлюкевіч:

Паны Радныя! Зноў паўтараю, што адозвы перад усім датычацца мяне, хаця ў іх ёсьць абраза ўсіх радных—сяброў зьезду.

Але я лічу, што найлепшым адказам было абурэньне ўсяго зьезду, якое спаткаў Мамонька! Дык я прапаную наступную рэзалюцыю, згодную з павагаю зьезду.

## Протэстацыйная рэзалюцыя.

Сцьвярджаючы:

1) што выступленьня палітычных банкротаў, як Шапель, Крук, Мамонька і іншыя, якія былі дапушчаны на Зьезд з правам голасу, зьяўляюцца спробаю надаць рэчоваму і апалітычнаму зьезду характар мітынгова-палітычны з мэтаю самарэклямы;

2) што, ня маючы у гэтым абсалютна ніякага пасьпеху, вышэйпаданыя асобы дарэмна прабавалі зарваць Зьезд і падарваць аўтарытэт і добрае імя як усіх сябраў Зьезду, гэтак і яго арганізатараў, —

Першы Зьезд Радных Беларусаў прызнае гэтае выступленьне нягодным і пастанаўляе выразіць гэтым асобам сваю ганьбу, аб чым давясьці да ведама сваіх выбаршчыкаў.

## Прамова п. Друцкага-Падбярэскага.

Грамадзяне—Радныя! Як скрыгат жалеза па шклу, ў спакойнай, дзелавой атмасфэры нашага Зьезду прагучэў сяньня гістэрычна-дэмагогічны выпад п. Мамонькі. Што яму трэба? Яшчэ ўчора ён вітаў Зьезд, жадаў памыснай працы... Крыху тлумачэньня знаходзім у лістоўцы, якую нам пакінуў п. Мамонька: ён і яго кумпанія хоча сарваць Зьезд... Гледзячы на подпісы — можна не дзівіцца гэтай выходцы. Бо-ж хто яе падпісаў? Мамонька — былы эс-эр. Чалавек, які ўсё жыцьцё нічога не робіў, а толькі шкодзіў другім у рабоце Радны — Крук, які так сама вітаў учора Вас — прайшоў па бальшавіцкаму сьпіску. Пасол Шапель, б. вызваленец, пасьля камунізуючы НПХ-овец, сябра польс іх ультра—левых партыяў, які пралез у Сойм беларускімі галасамі, але да беларускасьці прызнаўся толькі тады, калі затрашчаў мандат, а ягоныя „ідэолёгія“ НПХ-оўца аб'яўлена антыпаньствовай. Далей ідзе Міткевіч... О! гэта ўжо зусім вядомая вялікасьць... з выбараў у Сойм у 22 г., калі ён разьбіваў белар еднасьць... Аб іншых — гутарыць няма чаго: нейкія 000.

Але вось іншая справа—другая лістоўка, падпісаная п. Умястоўскім. Іншая не дзеля таго, што п. Умястоўскі палітычна мае большую вартасьць, ці вагу ад тых, з кім сяньня выступіў „адзіным фронтам“. Але дзеля таго, што п. Умястоўскі, як ён сам сябе зарэкамэндаваў учора пры павітаньні Вас — стары беларускі пісьменнік. Ягонае выступленьне проці Зьезду — проста нейкая дзіцячая выхадка, Рарэклямаваўшы гэтак сябе ўчора, ён сяньне бы дзіцяне мармоча: „прывітаў... але... памыліўся“.. „прыняў за Зьезд — жменю людзей“..

Паны! Калі хто бярэцца за палітыку, — гэтак мыляцца ня можна, а стараму ды яшчэ беларускаму пісьменніку — проста сорам выступаць гэтак проці I-га Зьезду сапраўды выбраных прадстаўнікоў Народу! Канешна ён выставіў сабе гэтым найлепшы

лежыць зьвяртацца да Ураду Эміграцыйнага у Варшаве, вул. Каралеўская 33, да Урадаў Пасрэдніцтва Працы, да Польскага Эміграцыйнага Т-ва у Варшаве і па справам пашпартаў да старастаў.

Урад Эміграцыйны выдае спэцыяльныя брашуркі з указаньнем, куды можна эміграваць, на якіх варунках і якія дзе варункі працы ці асадніцтва, коштаў праезду, патрэбных дакумэнтаў і пашпартавых фармальнасьцяў.

Польская эміграцыя скіроўваецца галоўным чынам да Канады, Бразыліі, Аргэнтыны, Злучаных Штатаў, Нямеччыны і Францыі. Польскімі эмігрантамі за граніцаю апякуюцца польскія консулы у адносных краёх.

## АРЫШТ 13 РАДНЫХ.

Украінская газэта „Громадськiй Голос" (нумар 6) піша, што у Волі Якубовай Драгабыцкага пав. арыштавана 13 радных. Справа гэта прадстаўляецца так: у часе выбараў да Грамадзкае Рады змагаліся два кірункі: адзін кірунак Укр. Сацыял.-Радык. Партыі, дэвізам якой было, „каб грамадзкім дабром чэсна кіравала „Грамадзкая Рада", другі з дэвізам „хай ўсё гіне, абы нам было добра". Да гэтата апошняга належаў і заступнік старшыні павятовага камітэту Укр. Нар. Дэм. Аб'яднаньня пісар Сьцяпан Куленяк. Спачатку на выбарах перамаглі першыя, але другія дабіліся перавыбараў і атрымалі большасьць мейсц—17 проці 15. Гэтай большасьцю выбралі новага война, Базыля Мельніка, які з новым годам пераняў урадаваньне і завёў у чыста украінскай грамадзе ўрадаваньне у польскай мове, нават ужываючы яе ў зносінах з чытэльнямі „Просьвіты".

25 мінулага месяца меншасьць радных (15) рашыла дамагацца ўрадаваньня ў Радзе ў украінскай мове, а гэтак сама і адчыненьня украінскае школы, дык тады большасьць (17) выйшла і перарвала паседжаньне. У наступную нядзелю прадстаўнік меншасьці ў Гр. Радзе т. Матчак заявіў сабраньню Грамады, што меншасьць Гр. Рады рашыла пастаяць у барацьбе за украінскія правы, за украінскую мову і укр. школу... У наступны дзень, раніцай, войт аказаўся ў Драгабычы, а ў аўторак вечарам прыехала у вёску 35 паліцыянтаў і арыштавала 13 радных.

## СТАТЫСТЫКА.

Нішто так не калечаць у Польшчы, як статыстыку аб нацыянальных меншасьцях, калі трэба паказаць заграніцы больш палякаў у Польшчы, чым ёсьць узапраўды. Асабліва гэта лёгка рабіць з беларусамі, частка з якіх ёсьць каталікі і шмат якіх пры выдаваньні новых пашпартоў ці пярэпісі на пытаньне, якой яны нацыянальнасьці, называлі сябе проста „тутэйшымі". А польскія статысты залічаюць усіх беларусаў-каталікоў і „тутэйшых" да палякаў.

Вось для прыкладу возьмем два польскія календары-кніжкі ральнічыя: „Календаж Рольніка Польскего" на 1929 г. (944 старонкі—цана 3 зл.) і „Календаж Господарскі" на 1929 г. (576 ст. цана 2 зл. 50 гр.). Кніжкі вельмі паважныя і карысныя для кожнага земляроба. Дзеля гэтага прапануем, што можна ахвяраваць 2,50—3 зл. і набыць адну з іх. Паміж рознымі гаспадарскімі артыкуламі і статыстычнымі данымі, у іх ёсьць і статыстыка нацыянальных меншасьцяў у Польшчы. На 30 мільёнаў насяленьня у Польшчы паводле „Кал. Гаспад." беларусаў у Польшчы ёсьць 1,460,000 (5,13 прац.), а паводле „Календажа Рольніка Польскего" — беларусаў у Польшчы толькі 1,060,237 (3,9 прац.). А 400,000, ці каля 1,5 прац. усяго насяленьня, ужо дзесь згінулі.

Дык узьнікае пытаньне, колькі-ж узапраўды ёсьць беларусаў у Польшчы? Няўжо-ж польская статыстыка ня можа даць выразнага адказу на гэтае пытаньне? Бо калі лгаць, дык трэба было хоць умовіцца. Інакш, пры гэткіх розніцах у паважных крыніцах ня можа быць даверу да ніякае з іх.

oooooooooooo

## КОЛЬКІ ПРАЦУЮЧЫХ у ПОЛЬШЧЫ.

Паводле апошніх статыстычных даных у Польшчы на агульны лік каля 30 міл. насяленьня працуючых прыходзіцца 13,917,050, з іх 7,733,247 мужчынаў і 6,183.813 жанчын.

Найбольш працуе між 20 і 26 гадоў жыцьця — каля 3,5 мільёнаў, затым між 14 і 19 гадоў — 3 міл., між 30 і 39 г. — 2,5 м. У гэтым параўнаньні кідаецца ў вочы вельмі вялікі лік працуючых між 14 і 19 г. жыцьця. Калі да гэтага далічыць, што ніжэй 14 г., а значыць у дзіцячым веку, працуе ў Польшчы больш 0,5 мільёнаў, дык пераканаемся, што першае мейсца па ліку займае група дзяцей і падрастаючае моладзі, змушанае працаваць. Гэтак сама шмат працуе і нават больш 60 г.—каля 1,200,000.

Адносна фаху з 14 м. каля 10 міл. працуе ў земляробстве, агародніцтве, жывёлагадоўлі, рыбалоўстве і лясьніцтве. На другім мейсцы стаіць група займаючаяся гандлем—400 тыс. чал.

Трэцяя група—горная наагул прамысмовасьць. Прамысловасьць адзежная і галянтэрыйная — 333 тыс., дамовая абслуга—250 тысяч.

Чыгунка і меставыя трамваі даюць працу 175 тыс. асоб, прамысловасьць спартовая — 150, дзеравяная прамысловасьць 115 тыс. і будаўляная — 105 т.

Служба публічная і вольны фах—адміністрацыя, адвакатура і г. д.—каля 136 т. Навука, літэратура, штука, тэатр, музыка, спорт — каля 12 тыс.

З 14 міл. самастойных працаўнікоў каля

3 міл., а рэшта памагае ў сямействе — каля 6 міл., з якіх каля 4 міл. жанчын.

Асобаў, якія не працуюць, а чэрпаюць сродкі на утрыманьне сябе з розных даходаў (дармаедаў) ёсьць каля 25о тыс.

Адсюль відаць, што у Польшчы вельмі шмат працуе жанчын і дзяцей, на якіх ляжыць утрыманьне сямейства, а затым пажылых асобаў за 6о г., якім ужо час адпачываць.

ооооооооооо

## УКРАІНСКАЯ ПРЭСА ў ПОЛЬШЧЫ.

Львоўская украінская часопісь „Діло“ падае статыстыку ўкраінскае прэсы у Польшчы за 1928 год. Паводле гэтае статыстыкі, у Польшчы выходзіць 100 украінскіх часопісяў, з якіх 85 прыходзіцца на Усх. Галіцыю, 4 на Валынскае ваяводзтва, 2 на Холмшчыну і 9 на іншыя ваяводзтвы. Акрамя таго, выходзяць 4 часопісі утраквістычныя: 1 польска-украінская на Валыні, 1 польска-расейска-украінская на Валыні, 1 польска-расейска-украінская ў Варшаве, 2 расейска-украінскія ва Львове і 1 ў расейскай мове.

З гэтых часопісяў толькі адна выходзіць кожны дзень, а дзьве—тры разы ў тыдзень і 1—два разы ў тыдзень.

Затым выходзіць 26 тыднёвікаў, 14 двутыднявікаў, 33 месячнікаў, 7 трымесячнікаў і 16 пэрыядычных. Найбольш (67) выходзіць у Львове, 6—у Кракаве, 6—у Каламыі, 4 у Станіслававе, 3—у Тарнапалі, 2—у Перамышлю, 2—у Жулкві, 1—у Рогаціне, 1—у Калішы. Гэткім чынам, прыходзіцца 1 часопісь на 70,000 украінцаў.

Якімі беднымі выглядаюць беларусы са сваімі некалькімі часопісямі у параўнаньні з украінцамі.

ооооооооооооооооооооооо
ооооооооооооооооооооооо

# Навука і тэхніка.

## НАВІНЫ З ГАЛІНЫ АВІАЦЫІ.

З пералётам праз Атлянтыцкі акіян на аэрaплянах цяпер скіравана асаблівая увага на будову вялізарных пасажырскіх аэрапляпнаў. У гэтай галіне на першым мейсцы стаіць Нямеччына, якой забаронена Вэрсальскім трактатам будаваць ваенныя аэрапляны. Але мусіць яны пераканаными, што на выпадак вайны можна будзе лёгка прыстасаваць гэтыя паветраныя пасажырскія волаты для ваенных мэтаў — газавае вайны. Дзеля гэтага яны з такім запалам і будуюць пасажырскія аэрапляны.

Нямецкае Т-ва Рорбах С° будуе сэрыю вялізарных аэрaплянаў з некалькімі сільнікамі па 600 конскіх сілаў кожны. Усе гэтыя аэрапляны празначаюцца для паветранае пасажырскае камунікацыі між Нямэччынаю і Аргэнтынаю ў Паўдзённай Амэрыцы. Гэта будуць найбольшыя з істнуючых дагэтуль аэрaплянаў.

А вось фабрыка Дорнер у Швайцарыі хоча пабіць рэкорд у гэтай галіне. Быццам, прыступіла да будовы аэрапляну, крыльлі якога дўжыні 400 мэтраў (каля 6оо крокаў). з 12 маторамі па 5оо конск. сілаў кожны,

Сам апарат будзе важыць 2о тонаў (12оо пудоў). Груз. г. ё. бэнзына, тлушч, абслуга, пасажыры і багаж абрахаваны на 3о тонаў. Максымальная хуткасьць лёту 3оо кілямэтраў у гадзіну. Можна трымацца ў паветры 2о гадзін. 9 маторам могуць рушыць апарат, а 4 на выпадак сапсуцьця якіх-небудзь з іх.

Гандола 62 мэтраў даўжыні, а у шырыню такая, што можна зьмясьціцца 6 крэслаў з праходам пасярэдзіне. Для 6о пасажыраў будзе да ўжытку 4 кабінэты. На аэраплянe будзе месьціцца кухня, покой для абслугі, сталовая і г. д.

Калі гэта ня байка, дык хутка пачуем аб пробных палётах гэтага паветранага палацу. Хаця у гэтым няма нічога фантастычнага.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. ЛІТАРАМІ У. ЗНАМЯРОЎСКАГА, ФІЛЯРЭЦКАЯ 12.
ДРУК „РАХ“, ВУЛ. СЬВ. ІГНАТА 5.